Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 300
Адрас для карэспандэнцыі: 220088,
г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 27 кастрычніка 1998 г. № 115 (507) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.



*На здымках: у мінулую суботу Кастрычніцкая плошча ў Мінску была запоўненая народам — стаялі чэргі за свінінай (па 106 тысяч за кг.), каўбасою ды сасіскамі. Каб купіць два кілаграмы (у адны рукі больш не прадавалі), трэба было прастаяць гадзіны паўтары.*

## Пасол Турцыі вернецца ў Дразды?

**Аляксандр Лукашэнка прапанаваў амбасадару Турцыі Шуле Сойсал вярнуцца ў рэзідэнцыю ў Драздах. Пра гэта кіраўнік турэцкай дыпламатычнай місіі паведаміла журналістам напрыканцы мінулага тыдня.**

Закрануўшы праблему канфлікту вакол Драздоў, спадарыня Сойсал адзначыла, што ўрад яе краіны разумее неабходнасць перасялення дыпламатаў як адно з патрабаванняў мераў бяспекі кіраўніка Беларусі. Аднак, па словах Шуле Сойсал, спосаб рэалізацыі гэтых мераў быў для Турцыі непрымальны. Запрашэнне вярнуцца ў Дразды амбасадар лічыць праявай добрай волі з боку беларускага ўрада і спадзяецца, што канфлікт будзе паспяхова вырашаны.

Як нам паведаміла спадарыня Сойсал, канчатковае рашэнне аб яе пераездзе ў Драздкі яшчэ не прынятае, гэтае пытанне цяпер разглядае ўрад Турцыі. А пакуль турэцкі пасол жыве ў часовай рэзідэнцыі ў Мінску. Дарэчы, Турцыя адзіная краіна *NATO*, прадстаўнік якой не быў адкліканы з Мінска пасля пачатку драздоўскага канфлікту.

Цалкам верагодна, што беларускія ўлады, прапануючы Шуле Сойсал вярнуцца ў Драздзы, хочуць прадэманстраваць Захаду, што ніякага канфлікту вакол рэзідэнцыяў няма, таму, маўляў, няхай вашыя паслы вяртаюцца.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Курапаты – загадка для генпракурора

**Генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка заявіў на прэс-канферэнцыі ў мінулую пятніцу, што пракуратура дагэтуль не высветліла, хто пахаваны ў Курапатах: «ворагі народа», расстраляныя супрацоўнікамі НКВД у 30-40 гадах, ці ахвяры фашызму, забітыя падчас Другой сусветнай вайны.**

За апошнія дзесяць гадоў адказ на пытанне «Хто і каго забіваў у Курапатах?» шукаўся не аднойчы. Пракуратура Беларусі двойчы праводзіла афіцыйнае следства па факце масавых пахаванняў людзей у Курапацкім лесе пад Мінскам. Абодва разы адказ быў адназначны — у 30-40 гадах людзей у Курапатах расстрэльваў НКВД.

Такія вынікі не задавальнялі пэўную катэгорыю людзей, якіх куды больш вабіла «фашысцкая» версія. Таму напрыканцы 1997 года распачалося трэцяе расследаванне, якое вядзе Ваенная пракуратура Беларусі.

Гэтае следства ўжо амаль завершанае. Былі праведзеныя раскопкі ў Курапатах, у чарговы раз перагледжаныя архіўныя дакументы, што могуць неякім чынам датычыць «курапацкай справы». Паводле нашых звестак, апошняе следства не змагло дадаць нічога прынцыпова новага да вынікаў працы сваіх папярэднікаў. Таму дзіўна, што генеральны пракурор дагэтуль не можа адказаць, хто і каго забіваў у Курапатах.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*(Іншыя падрабязнасці з прэс-канферэнцыі генеральнага пракурора Беларусі чытайце на стар.2)*

## Прэзідэнт з камсамолам

Як паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба, Аляксандр Лукашэнка 29 кастрычніка будзе ўдзельнічаць ва ўрачыстасцях, прысвечаных 80-годдзю ВЛКСМ.

## Крымінальны бартэр

Беларускія злачынцы, што сёння ўтрымліваюцца ў турмах Літвы, могуць у хуткім часе вярнуцца дадому — даседжваць свой тэрмін. Вяртанне на радзіму чакае і літоўскіх злачынцаў, што сёння знаходзяцца за кратамі ў Беларусі.

Як паведаміла літоўскае міністэрства замежных справаў, гэтымі днямі ўступае ў сілу пагадненне аб абмене злачынцамі, падпісанае Беларуссю і Літвой яшчэ ў 1996 годзе. Па звестках літоўскага агенцтва *ELTA*, у беларускіх турмах сёння ўтрымліваецца каля 40-50 літоўцаў. Беларусаў-крымінальнікаў у Літве ўдвая менш — каля 20 чалавек.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Мікалая Чаргінца не пусцілі ў ЗША

**Пасольства ЗША не выдала ўязныя візы дэпутатам прэзідэнцкага парламента Мікалаю Чаргінцу і Аляксандру Козыру, старшыням абедзвюх «палатачных» камісіяў па міжнародных справах. Дэпутаты планавалі з'ездзіць у Нью-Йорк з 23 па 28 кастрычніка.**

Нагадаем, пасля высялення замежных паслоў з іх рэзідэнцыяў у Драздах, краіны Еўрапейскага саюза, а таксама Злучаныя Штаты і іншыя дзяржавы вырашылі не выдаваць візы 130 беларускім чыноўнікам на чале з прэзідэнтам Лукашэнкам. У спісе, праўда, не значыліся прозвішчы Мікалая Чаргінца і Аляксандра Козыра. Аднак у рашэнні Еўрасаюза было сказана, што візавыя санкцыі *«будуць прымяняцца таксама да іншых асобаў, не названых у спісе, але якія падпадаюць пад азначаныя катэгорыі»*.

М.Чаргінец і А.Козыр былі запрошаныя на штогадовую нараду Міжпарламенцкага саюза (МПС). Дэлегаты з Беларусі планавалі прыняць удзел таксама ў абмеркаванні пытання аб супрацоўніцтве МПС і ААН.

Рыхтуючыся да паездкі за акіян, М.Чаргінец і А.Козыр яшчэ ў верасні здалі свае пашпарты для візаў у амерыканскую амбасаду. Час ад часу дэпутаты нагадвалі пра сябе пасольству, каб тое паскорыла выдачу візаў. Старшыні набылі нават авіябілеты ў Нью-Йорк.

Па словах Мікалая Чаргінца, *«Дзяржэпартамент ЗША палічыў, што ехаць нам неабавязкова»*, і амбасада не выдала візы.

Аляксандр Козыр у размове з карэспандэнтам НАВІНАЎ назваў гэта *«хамскім выпадам ЗША ў адносінах да Міжпарламенцкага саюза»*. Па словах Козыра, паездка мела для Беларусі вялікае значэнне, бо *«была магчымасць выкарыстаць міжнародную трыбуну для выкрыцця неадэкватнага стаўлення да беларускага парламента»*. Мікалай Чаргінец наогул абвінавачаў Злучаныя Штаты *«ва ўмяшанні ў справы ААН»*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*А.Лукашэнка:*

## «Радзіма ў нас адна»

**На мінулым тыдні прэзідэнт Лукашэнка пераконваў расійскую аўдыторыю, што ён не ганяецца за шапкай Манамаха, а займаецца выключна ўмацаваннем эканамічных адносінаў Беларусі і Расіі.**

*«Я хачу, каб мы былі моцнымі»*, — заявіў Лукашэнка, выступаючы ў Омску. Па словах Рыгоравіча, *«што б не адбывалася на тэрыторыі былога СССР, радзіма ў нас адна. Для нас усіх як Беларусь, так і Сібір — агульная Айчына»*, — так заявіў Лукашэнка на сустрэчы з беларусамі, што жывуць у Омскай вобласці.

Выступаючы 22 кастрычніка перад прадстаўнікамі грамадскасці Омска, беларускі прэзідэнт сказаў, што ўскладае пэўныя спадзяванні на новага прэм'ера Расіі Яўгена Прымакова, аднак, па яго словах, *«мы яшчэ будзем сведкамі, па меншай меры, аднаго-двух аналагічных абвалаў»* расійскай эканомікі. Гэта, лічыць беларускі прэзідэнт, будзе зроблена працаўнікамі цяперашняга кіраўніцтва Расіі. А.Лукашэнка заклікаў дзелавыя колы Омска падключацца да інтэграцыйнага працэсу, забыўшыся на ўзаемныя прэтэнзіі Беларусі і Расіі. *«Мы вам не вінаваты сёння ні цэнта*, — заявіў ён. — *Вось вам факты: сёння Беларусь 220—240 мільёнаў вінаватая за газ Расіі ў тавараабароце дзесяцімільярдным... Расійскія суб'екты гаспадарання, якім мы пастаўлялі прадукцыю, завінавацілі нам каля 800 мільёнаў долараў. Я прашу заплаціць беларусам 800 мільёнаў, я вам заўтра — 240»*.

Лукашэнка таксама заклікаў расіянаў мацаваць саюз з Беларуссю дзеля таго, каб разам супрацьстаяць *NATO*, якое, маўляў, зусім блізка: *«Нашыя былыя сябры лезуць у NATO. Толькі мы вывелі ядзерную зброю з Беларусі — NATO каля нашых межаў»*.

Гаворачы пра свае адносіны з Барысам Ельцыным, беларускі кіраўнік зазначыў: *«Мы практычна амаль ужо год як не сустракаліся са сваім калегам, прэзідэнтам Расіі. Ці ж саюзнікі могуць сабе такое дазволіць, каб не сустракацца і не абмяркоўваць тыя ці іншыя праблемы? Гэта таксама факт. Вінаваты не толькі Барыс Мікалаевіч, але і мы абодва вінаватыя ў тым, што часам гардыню сваю не можам уціхамірыць, каб сустрэцца і абмеркаваць тыя ці іншыя пытанні»*, — сказаў А.Лукашэнка.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ, Наталля КУЛАГІНА**

## У Брэсце адкрылася консульства Украіны

Па беларускіх афіцыйных дадзеных, у Брэсцкай вобласці жыве каля 60 тысяч этнічных украінцаў. Праўда, некаторыя прадстаўнікі ўкраінскай дыяспары лічаць, што людзей, якія ідэнтыфікуюць сябе як украінцы, намнога больш. *«Не хачу ўцягвацца ў гэтыя спрэчкі, пачакаем перапісу насельніцтва ў Беларусі»*, — заявіў на цырымоніі адкрыцця консульства ўкраінскі амбасадар у Беларусі Анатоль Дронь. На яго думку, галоўнае, каб адносіны паміж Беларуссю і Украінай былі сяброўскімі і цывілізаванымі.

З адкрыццём украінскага консульства Брэст стаў рэкардсменам сярод абласных цэнтраў Беларусі па колькасці дыпламатычных установаў. Як вядома, у горадзе над Бугам ужо працуюць консульствы Расіі і Польшчы. Пасольскі консулят нядаўна справіў наваселле на першым паверсе цалкам адрамантаванага за польскі кошт будынка па вуліцы Куйбышава. Расійскім дыпламатам пашанцавала яшчэ больш. Ім пад консульства быў аддадзены старажытны асабняк у цэнтры горада. (Калісьці ў ім размяшчаўся Брэсцкі гарком КПБ.) Цікава, што за гэтыя шыкарныя апартаменты расіяне нічога гораду не заплацілі — беларускі прэзідэнт распарадзіўся перадаць будынак у якасці аплаты за «газавыя» даўгі.

Што тычыцца ўкраінцаў, то да іх беларускія ўлады паставіліся як да звычайных замежнікаў. За некалькі пакояў у будынку па вуліцы Пушкінскай украінцы будуць плаціць немалую арэндную плату. У консульстве Украіны пакуль будзе працаваць усяго двое дыпламатаў.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## Чацвёрты Міцкевіч

**У нядзелю, 25 кастрычніка, у Гродне быў урачыста адкрыты помнік-бюст вялікаму паэту Адаму Міцкевічу.**

Яго аўтар — мінскі скульптар Андрэй Заспіцкі. На пастаменце напісана па-беларуску і польску: «Адаму Міцкевічу. Удзячныя суайчыннікі. 1998». У Беларусі дагэтуль было два бюсты паэта ў Брэсце і Лідзе і помнік у Навагрудку.

Скульптура А.Міцкевіча ў Гродне была пастаўлена па ініцыятыве Саюза палякаў Беларусі і знаходзіцца перад домам-сядзібай гэтай арганізацыі. Удзельнікі ўрачыстага мітынгу трымалі транспаранты на польскай і беларускай мовах. На адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі польскага парламента, віцэ-прэзідэнт Варшавы, намеснік міністра адукацыі РП, кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў Польшчы ў Беларусі. Беларускія ўлады былі прадстаўлены ўсяго толькі гарадскімі чыноўнікамі, не прысутнічаў нават мэр Гродна.

**Інга БАЗЫЛЕВІЧ**

КАДРЫ




# Гучныя справы

## З прэс-канферэнцыі генеральнага пракурора

### Замах на прэзідэнта

Генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка на прэс-канферэнцыі ў мінулую пятніцу заявіў, што замах на прэзідэнта Лукашэнку сапраўды рыхтаваўся.

Па словах генпракурора, гэта высвятлілася пры расследаванні абставінаў забойства старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага. Алег Бажэлка сказаў, што асобы, якія маюць дачыненне да гэтага злачынства, знаходзяцца пад арыштам і паўстануць перад судом. Якое канкрэтна абвінавачанне ім будзе прад'яўлена, генеральны пракурор паведаміць адмовіўся. Што да самога следства па факце гібелі Я.Мікалуцкага, то яно завершана, абвінавачваемыя ўжо азнаёміліся або працягваюць знаёміцца са следчымі матэрыяламі. З гэтай справы ў асобную вытворчасць выдзелены матэрыялы, расследаванне па якіх працягваецца.

Мяркуючы па ўсім, праваахоўныя органы вельмі балюча рэагуюць на любыя размовы на дадзеную тэму. Ва ўсялякім выпадку, пачуўшы пытанне карэспандэнта БелаПАН аб ходзе расследавання забойства Мікалуцкага, генеральны пракурор у рэзкай форме абарваў яго, нават не даслухаўшы да канца.

### Справа Клімава

Следства па справе Андрэя Клімава працягваецца. Тэрмін утрымання пад вартай прадоўжаны да 11 снежня 1998 года. Што да стану яго здароўя, то, па словах пракурора, у выніку праведзенага медыцынскага агляду ў Клімава выяўлены толькі тыя захворванні, якімі ён пакутаваў задоўга да арышту.

### Справа Лявонава

Падчас расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава ўстаноўлена, адзначыў Бажэлка, што ён неадназова атрымліваў хабар ад службовых асобаў, злоўжываў службовым становішчам. Цяпер рыхтуецца пастанова па прад'яўленні В.Лявонаву канчатковага абвінавачання.

### Справа Віннікавай

Па справе Тамары Віннікавай вынесена пастанова аб правядзенні комплекснай медыка-псіхалагічнай экспертызы, якая павінна адказаць на пытанне: у якой ступені былы галоўны банкір краіны можа ўдзельнічаць у следчых дзеяннях. Па выніках экспертызы будзе вызначацца магчымасць завяршэння папярэдняга следства па справе, у тым ліку прад'яўлення Віннікавай канчатковага абвінавачання.

### Справа Хілько

Што да расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да былога старшыні праўлення Ашчаднага банка Беларусі Уладзіміра Хілько, арыштаванага тры тыдні таму, то генеральны пракурор паведаміў, што ў свой час У.Хілько незаконна выдаў крэдыт нейкаму грамадзяніну Падоксіку ў памеры 1 мільён долараў. Цяпер Падоксік, па словах пракурора, хаваецца за мяжой, аднак ужо ўстаноўлена, дзе ён знаходзіцца, і вырашаецца пытанне аб яго выдачы беларускім уладам.

### Справа Старавойтава

Наконт справы Васіля Старавойтава генпракурор сказаў, што былому кіраўніку «Рассвета» прад'яўлены абвінавачанні ва ўчыненні злачынстваў больш чым па 10 артыкулах Крымінальнага кодэкса.

У прыватнасці, двойчы герою сацыялістычнай працы інкрымінуюць крадзяжы шляхам злоўжывання службовым становішчам, хабарніцтва (устаноўлена 88 выпадкаў дачы хабару на агульную суму звыш 1 мільярда 300 мільёнаў рублёў), арганізацыю кантрабанднага правозу праз мяжу звыш 23 тысяч долараў і шораг злачынстваў, у тым ліку незаконнае набыццё і захоўванне агнестрэльнай зброі.

Генеральны пракурор адзначыў, што ў дачыненні да многіх работнікаў «Рассвета» крымінальныя пераслед спынены, хаця склад злачынства ў іх дзеяннях меўся. *«Следства палічыла немэтазгодным, з улікам многіх абставінаў, прыцягваць да крымінальнай адказнасці вялікую колькасць людзей»*, — сказаў А.Бажэлка.

*БелаПАН*

## Хартыя нікога не вылучала

**ІНТЭРВ'Ю** Станіслава Шушкевіча польскай газеце *Trybuna* выклікала неадназначную рэакцыю ў Мінску. Прадстаўнік аргкамітэта Хартыі-97 Андрэй Саннікаў пажадаў унесці яснасць у адну пытанне.

**А.САННІКАЎ:** «Станіслаў Шушкевіч — вопытны палітык і можа весці сваё меркаванне аб падзеях, людзях і, натуральна, выказваць яго там, дзе палічыць патрэбным. Я б хацеў пракаментаваць пытанне, якое задаў сп.Шушкевічу карэспандэнт газеты: быццам людзі, якія аб'ядноўваюцца вакол Хартыі-97, вылучалі адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад дэмакратычных сілаў Генадзя Карпенку. Такога не было. Мэта Хартыі-97 — мабілізаваць людзей на абарону сваіх свабодаў і правоў, супрацьстаяць дыктатуры ў яе наступе на дэмакратыю. Хартыя-97 — грамадзянская ініцыятыва, а не палітычны рух ці партыя, якія працуюць на сваіх лідэраў. На апошнім паседжанні аргкамітэта Хартыі-97 была прынятая пастанова: неадкладная адстаўка Лукашэнкі, фармаванне кааліцыйнага ўрада нацыянальнага выратавання. Нікога з лідэраў кандыдатам у прэзідэнты мы не вылучалі.

Што датычыць заявы Шушкевіча наконт таго, быццам Хартыю-97 больш ведаюць за мяжой, чым у Беларусі, то некаторыя тутэйшыя партыі невядомыя ні тут, ні там, і ў іх лідэраў гэта выклікае рэўнасць, што, па вялікаму рахунку, можна зразумець».

*Запісаў* **Павел АНТАНОВІЧ**

# Фокус не удался

**Константин СКУРАТОВИЧ**

Два года назад большинство наших граждан (67,4 процента) считали, что россияне живут лучше белорусов. Теперь же оценки «российских достижений» в корне изменились: доля тех, кто считает, что уровень жизни в России превышает белорусский, уменьшилась в три раза. Соответственно в 16 (!) раз выросло число тех, кто полагает, что россиянам живется хуже, чем белорусам.

**ПОНЯТНО**, что это только мнение. О том, насколько оно соответствует действительности, говорить трудно. Важно, что подобное изменение, считают социологи, стало фактом массового сознания, который влияет и на другие представления о восточном соседе. Пока же по инерции белорусы все еще преувеличивают свою интеграционную нужду. Так, 37% опрошенных считает, что большинство сограждан желает объединения Беларуси и России в одно государство. В то же время, выражая собственное отношение к интеграции, более половины респондентов (50,8%) ограничивают ее рамками добрососедских отношений двух независимых государств (в декабре этой точки зрения придерживались 34,5% опрошенных).

**НА РОССИЙСКИЕ** катаклизмы в последние недели наложились события в Сербии, что спровоцировало мощную кампанию официального патриотизма, которая, как показывают данные опроса, должного эффекта не имела: 60,8% респондентов видят Беларусь независимым нейтральным государством. Число тех, кто хотел бы видеть Беларусь в военном союзе (19,8% — с Россией, и 11,6% — с НАТО), весит намного меньше мнения «нейтралов».

Таким образом, в массовом сознании постепенно начинает преобладать интеграционный скептицизм, и фраза Лукашенко о том, «что народы заставят политиков восстановить Союз», можно считать сознательной диффамацией. Теперь если белорусов и вовлекут в новый союз, то произойдет это помимо их воли. Что ж, заслужили...

Тем более, что, несмотря ни на что, 44,7% участников опроса видят на посту главы нового евразийского государства именно Лукашенко (второй по уровню популярности претендент, Григорий Явлинский, имеет только 3,5%). К тому же российская неразбериха, похоже, повысила электоральную привлекательность «белорусского порядка» и число тех, кто выразил готовность голосовать за Лукашенко на новых президентских выборах, повысилось до 52,2% (в декабре прошлого года их было 44,3%).

**ЧУВСТВА**, понятно, изменчивы, но и «белорусский порядок» с каждым днем все больше деградирует. Нет смысла говорить о росте цен, который никак не компенсируется «стыдливым» повышением минималки. В магазинах пока еще есть какой-никакой товар, но в аптеках полки давно опустели. А зимой, известно, начинаются всякие эпидемии, особо опасные при недостаточном питании.

К тому же Лукашенко явно блефует, преувеличивая государственные запасы продовольствия, которыми распоряжается как собственными. Ладно бы речь шла только о погашении долгов за газ и гуманитарной помощи российским монахам, он ведь и чужую армию обещает взять на довольствие. Поэтому 1990 год, по которому тоскует электорат, приближается гораздо быстрее, чем можно было предположить. Для тех, у кого память коротка, могу напомнить: 1990 год — это когда универмаг «Беларусь» предлагает обувь двух фасонов: резиновые галоши и войлочные тапочки по предъявлению паспорта со штампом о прописке; 1990 год — это продажа сигарет в кассах стадиона «Динамо» (две пачки «Примы» в одни руки после двухчасового стояния в очереди) и первый в советской истории «табачный бунт»; 1990 год — это гуманитарная помощь, раздача голодающим старикам сухих пайков из запасов НАТО и б/у армейской униформы.

**ВПРОЧЕМ**, обещанное будущее уже наступило. В магазинах «для богатых», еще недавно бойко торговавших импортными деликатесами, на витринах уже появляются отечественные коровьи копыта. Уже в фирменных магазинах мясо-и птицекомбинатов торгуют исключительно водкой и «сопутствующими товарами». Уже выстраиваются очереди за требухой, и никто не делает вид, что покупает ее для кошки или собаки.

Но, что самое неприятное для Лукашенко — в ближайшие месяцы остановятся «запущенные» им заводы. В сентябре промышленность еще работала на старых запасах, но объем производства уже сократился на 4,5% по сравнению с августом. Теперь же нужно срочно покупать сырье и комплектующие, цены на которые подскочили в несколько раз. Денег (валюты) ни у кого, к счастью, на это нет. К счастью потому, что вкладывать деньги в производство при гиперинфляции все равно, что выбрасывать их на ветер.

**ИНЫМИ** словами, экономический лукашизм завершился так, как и должно было быть — полным банкротством. Но сам автор, похоже, этого или не понимает, или сознательно гонит волну, чтобы в очередной раз успеть вскочить в поезд, прежде чем провал станет для всех очевидным. И он все больше походит на токующего глухаря, парализованного одной единственной страстью.

А между тем, зима на носу, время для токования прошло. Зрители четырехлетнего безантрактного политического спектакля под названием ППРБ, «объелись» иллюзиями. Они ждут, что фокусник им наконец покажет живого зайца. Напрасно. Фокус явно не удался.

*В материале использованы данные соцопросов, которые проводил Независимый институт социально–экономических и политических исследований в рамках проекта «Развитие информационной инфраструктуры рыночной экономики в Беларуси», выполняемого при поддержке Центра международного частного предпринимательства (США). По случайной выборке опрошено 1.486 человек (предельная ошибка репрезентативности — 0,03).*

### Літва

**Учора ў Літве адкрыўся трохдзённы міжнародны семінар, прысвечаны праблемам Ігналінскай АЭС. З дакладамі выступяць спецыялісты па атамнай энергетыцы і грамадзянскай абароне з 14 краінаў Еўропы, у тым ліку з Расіі, Літвы, Швецыі, а таксама прадстаўнікі каардынацыйнага цэнтра NATO па аказанні дапамогі ў крызісных сітуацыях.**

### Таджыкістан

**Таджыкістан далучыўся да адзінай інфармацыйнай прасторы СНД.**

### Туркменістан

**Прэзідэнт Ніязаў стаў тройчы Героем Туркменістана — яму ўручана вышэйшая ўзнагарода краіны «Залаты месяц».**

### ЗША

**Нацыянальны алімпійскі камітэт ЗША абвясціў, што запатрабуе афіцыйнага ўручэння алімпійскіх медалёў тым амерыканскім спартсменам, якія ўступілі ў спаборніцтвах атлетам з былой ГДР.**

### Турцыя

**Паліцыя Стамбула арыштавала каля пяцісот чалавек на абвінавачванні ў спробе «азмрочыць маніфестацыю», прысвечаную 75-годдзю Турцыі.**

### Нарвегія

**Своеасаблівага прэтэндэнта на Нобелеўскую прэмію міру 1999 года адшукалі правыя дэпутаты нарвежскага парламента: гэта блок NATO.**

### ФРГ

**Гельмуту Колю будзе прысвоена званне «ганаровы грамадзянін Еўрапейскага саюза»**

### Расія

## Купім кілера!

**Спікер расійскай Дзяржлумы Генадзь Селязнёў выступіў ініцыятарам вельмі арыгінальнай папраўкі ў Крымінальны кодэкс РФ.**

Сутнасць яе ў тым, каб даць праваахоўным органам права «перакупляць кілера». На думку Селязнёва, такая папраўка дазволіць кілеру, які атрымаў заказ на забойства, свабодна прыйсці ў праваахоўныя органы і «прадаць за двайны ганарар» заказчыка забойства. Па словах спікера, ужо ў лістападзе гэты дакумент паступіць у думскі камітэт па заканадаўстве. Селязнёў падкрэсліў, што папраўка *«накіравана на тое, каб дапамагчы праваахоўным органам выкрыць арганізатараў заказных забойстваў»*.

## Банкі пад кантролем мафіі

**Па дадзеных ФБР, 550 расійскіх камерцыйных банкаў кантралююцца арганізаванай злачыннасцю.**

Такія звесткі прыводзяцца ў дакладзе Федэральнага бюро расследаванняў ЗША.

Як сцвярджае газета «Вашынгтон таймс», кантроль над вялікай групай камерцыйных банкаў дазваляе расійскай арганізаванай злачыннасці *«лёгка адмываць і перамяшчаць вялікія сумы наяўных грошай па ўсім свеце, пазбягаючы выплаты падаткаў»*.

## Прыярытэт – элітным школам

**Расія займае толькі 13-е месца сярод развітых краінаў свету па якасці школьных ведаў.**

Пра гэта паведаміў, спасылаўшыся на дадзеныя ЮНЕСКО, міністр адукацыі РФ Уладзімір Філіпаў. Разам з тым, Расія, па яго словах, знаходзіцца ў тройцы дзяржаваў, якія лідзіруюць па колькасці пераможцаў міжнародных школьных алімпіядаў.

*«Гэта сведчыць пра тое, што ў нас ёсць добрыя школы, дзе працуюць выдатныя педагогі»*, — адзначыў міністр. У той жа час, падкрэсліў ён, існаванне школ дрэнных і добрых ставіць дзяржаву перад выбарам, каго падтрымліваць у першую чаргу. На яго думку, пры недахопе фінансавых сродкаў трэба *«аддаваць перавагу»* добрым школам. Але пры гэтым дзяржава *«павінна гарантаваць якасны мінімум ведаў кожнаму»*, падкрэсліў міністр.

### Украіна

## Пісталет у якасці зарплаты

**Раздаць зброю — з такой прапановай звярнуліся да адміністрацыі рабочыя вінніцкага завода «Форт», першага на Украіне прадпрыемства па серыйнай вытворчасці стралковай зброі.**

Супрацоўнікі гэтага прадпрыемства ўжо сем месяцаў не атрымліваюць зарплату і прапануюць адміністрацыі кампенсаваць запазычанасць пісталетамі. Рабочыя не збіраюцца прадаваць зброю бандытам, а хочуць здаць яе ў праваахоўныя органы. Сэнс гэтай камбінацыі ў тым, што на Украіне цяпер праходзіць кампанія па добраахвотнай здачы зброі, і кожны, хто здае пісталет, атрымлівае за яго каля 100 долараў, за аўтамат — 150, за гранатамёт — 200 і г.д. Даведаўшыся пра такія расцэнкі, рабочыя скемілі, што ім бы цалкам хапіла па пары пісталетаў у месяц замест зарплаты.

*Падрыхтавала* **Алена СУРКО**

# Европол начинает работу

**На прошлой неделе, после завершения процесса ратификации всеми 15 государствами Европейского союза, официально вступила в силу конвенция о Европейской уголовной полиции — Европоле.**

Штаб-квартира Европола располагается в Гааге, где и состоялась торжественная церемония, посвященная началу деятельности новой организации. Европол создан на базе Европейского управления по борьбе с наркотиками, которое появилось в 1994 году в соответствии с Маастрихтским договором. Постепенно функции этой организации управления были расширены — кроме наркотиков, она стала заниматься борьбой с угонами автомобилей, с контрабандой радиоактивных материалов, «отмыванием» криминальных денег и нелегальным пересечением границ. Задачи, поставленные перед Европолом, еще шире — он займется борьбой с международной организованной преступностью во всех ее проявлениях, а также борьбой с международным терроризмом.

Штат Европола в настоящий момент насчитывает 155 человек. В его распоряжении компьютерный банк данных, созданный на основе национальных банков данных о преступниках и преступных группировках, действующих в Европе. Компьютерная система еще совершенствуется и полностью вступит в строй в 2001 году.

Возглавляет Европейскую уголовную полицию координатор Европола. Им стал Юрген Сторбек из Германии. Выступая на торжественной церемонии в Гааге, он заявил, что Европол имеет все возможности для эффективного противодействия организованной преступности, приобретающей в условиях «Европы без границ» угрожающие масштабы.

**Григорий ПЕТРОВ**

# Доллар тоже падает!

**В сознании граждан нашей страны американский доллар имеет очень высокую репутацию. «Доллар» и «финансовая стабильность» для нас — слова–синонимы. Резкое падение белорусского рубля в последние полтора месяца только подогрело чувства глубокой любви и искреннего доверия, которое белорусы испытывают к американской валюте. Между тем, на фоне мощного подъема долларового курса на нашем внутреннем рынке както незамеченным прошел тот факт, что в большинстве остальных стран мира доллар падает. А для выезжающих за границу это почти такая же неприятная новость, как и снижение покупательной способности национальной валюты.**

Среднестатистический белорус отправляется в иные земли с долларом. Во-первых, мы так привыкли. Во-вторых, приобретение других валют в Минске связано с несравненно большими хлопотами.

Но по прибытии в место назначения доллар следует поменять на местные денежные знаки. Когда обменный курс этих знаков поднимается, вы их получаете меньше за то же количество долларов, значит даже при неизменных внутренних ценах в стране, которую вы почтили своим визитом, пребывание там обходится вам дороже. К сожалению, сегодня это происходит почти повсюду.

«Почти» означает, что из этой неприятной тенденции все же есть исключения. Например, по-прежнему хорошими темпами снижается курс румынского лея. В Румынии за свои зеленые банкноты вы можете сегодня получить больше удовольствий, чем месяц назад, и еще больше — чем в позапрошлом месяце. Добро пожаловать в Бухарест и Констанцу!

Из развитых западных стран радует Канада. Слабость, поразившая местный доллар в начале года, все еще не изжита, и местные аналитики не надеются, что падение его курса удастся остановить в обозримом будущем. За 1988 год стоимость канадского доллара снизилась по отношению к американскому примерно на 20%. Это, конечно, ерунда по сравнению с темпами, которые демонстрирует наш рубль, но для экономных и привычных к стабильности канадцев и такое падение — большая потеря. А для гостей из-за рубежа — соответствующее приобретение.

По следам канадского доллара движется японская иена. Сегодня она пала так низко, как никогда за последние 20 лет, и продолжает снижение. Впрочем, слово «падать» по отношению к иене все же слишком сильно. Японская денежная единица теряет свое достоинство неторопливо и скупо: по 1–2 американских цента в месяц. А при нынешнем уровне цен в Японии никаких оснований надеяться, что при жизни нашего поколения путешествия в эту страну станут доступны не только для наиболее состоятельных белорусов. В Гинзе — центральном торговом районе Токио — стандартная цена чашки обычного кофе из обычной уличной кофеварки равняется 20 долларов. Если она снизится до 19,95 *USD* — невелико облегчение.

А в большинстве других частей света даже такого символического облегчения текущие тенденции валютного рынка нашим путешественникам не несут. Сплошной рост дороговизны (при неизменных ценах в местной валюте).

Традиционная схема сезонных колебаний валютных курсов в западном мире работает так: весной и летом, когда масса иностранцев устремляется в Европу, стоимость европейских валют относительно доллара США поднимается, в осенне-зимний сезон — снижается.

В этом году все наоборот. На дворе — середина осени, а фунты, франки, кроны и марки растут относительно доллара.

За американцев беспокоиться не стоит, у них ситуация — под контролем.

Снижение курса доллара — сознательная реакция финансовых властей США на мировой экономический кризис. Таким образом они защищают свой экспорт. Раз азиатские товары из-за падения курсов национальных валют дешевеют, значит и американская продукция должна немного подешевать — а то перестанут покупать. На внутреннем рынке для граждан страны ничего плохого не происходит. Все, что стоит серьезных денег (автомобили, бытовая техника), американцы не привозят из-за границы, а делают дома (и делают достаточно — по разным подсчетам, на одну эту страну приходится от 20 до 25% общемирового производства). Стоимость отечественных товаров в долларах остается неизменной, независимо от того, как доллар котируется за рубежом по отношению к другим валютам.

А вот нам за этот доллар в Европе и даже во многих частях Азии теперь придется получать меньше, чем вчера.

Укрепление национальных валют затронуло даже те страны, которые не относятся к числу индустриальных гигантов. На Кипре — стране, живущей в значительной степени за счет туризма, — сейчас, когда туристический сезон и туристические доходы этого года уже позади, впервые за долгое время местный фунт стоит больше 2 долларов. В обычные времена даже летом кипрский фунт не поднимался выше 1,7–1,8 *USD*.

Валюты бывших социалистических стран Восточной Европы (кроме Румынии, Албании и еще пары экономических неудачников) прервали свое неторопливое снижение относительно доллара и так же потихоньку тронулись вверх.

Да что там Кипр и Восточная Европа. Даже турецкая лира, которая знаменита своей феноменальной уязвимостью для инфляции (сейчас лира котируется на уровне около 300.000 за 1 доллар — рекорд в сегодняшнем мире), — и та чуть-чуть подросла!

Плохое время ездить за границу!

**Михаил УШКИН**

### Канада

# Монумент жертвам геноцида

**В Монреале открыт монумент «Искупление», посвященный народам, ставшим в XX веке жертвами геноцида.**

Первоначально монумент должны были посвятить памяти полутора миллионов армян, ставших жертвами резни, учиненной властями Османской империи в 1915-22 годах. Армянская община Канады выступила за его сооружение еще в 1994 году. Тогда власти Монреаля дали на это согласие.

Однако вмешалась Турция, которая наотрез отказывается признать сам факт геноцида. Турки пригрозили мэру Монреаля и правительству провинции Квебек разрывом торгово-экономических отношений, а также отменой визитов турецких официальных лиц в Канаду.

Турецкие протесты возымели действие. К давлению на власти подключились квебекские бизнесмены. Особой активностью отличались пять компаний, которым в случае сооружения памятника угрожал разрыв выгодных контрактов с турецкими партнерами. Однако и влиятельная армянская община не желала отказываться от своих требований. В итоге власти попали в неудобное положение.

Во взаимных препирательствах прошло несколько лет. Результатом стал компромисс в виде своего рода «интернационализации» монумента.

На памятнике не указывается, что он посвящен памяти только армян. Он представляет собой сооружение из белого мрамора в форме жилого дома, расколотого пополам. На стенках разрыва — список народов, ставших в XX веке жертвами геноцида. Упомянуты армяне, евреи, украинцы, крымские татары, цыгане, камбоджийцы, боснийцы, курды, хуту и тутси.

**Владимир МИХАЙЛОВ**

*«Бородатые» новости*

## Женщинам всегда что-нибудь мешает

*Большинству женщин, оказывается, не нравятся мужские бороды*

Согласно проведенному среди «слабого пола» опросу, они с большим удовольствием прижимаются к гладковыбритому лицу. Четверти опрошенных бороды мешают прежде всего при поцелуях. Особенно нелюбимы дамами эспаньолки, козлиные бороды, бакенбарды и бородки под нижней губой.

## С бородой даже на ринг не пускают

**Трех афганских боксеров, прибывших в Карачи на открывшийся здесь международный турнир по боксу, организаторы к соревнованиям не допустили.**

Причина кроется в буквальном смысле слова в их бородах. На предложение представителей Международной ассоциации любительского бокса (АИБА) сбрить их, афганские мастера ринга ответили категорическим отказом. Иначе, объяснили они, назад им на родину дороги нет. Несмотря на протест сопровождающих боксеров двух официальных лиц, организаторы турнира, в котором участвуют свыше ста боксеров из 20 стран, столь же решительно исключили афганцев из соревнований, сославшись на правила АИБА — на ринг с бородой дороги тоже нет.

*По сообщениям информационных агентств и материалам зарубежной прессы подготовил* **Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# Вакцина против СПИДа

**Группа вирусологов НИИ здравоохранения Италии под руководством доктора Барбары Энзоли в течение двух с половиной лет проводила серию исследований и экспериментов, позволяющих ныне утверждать, что формула вакцины против «чумы XX века» найдена.**

Сообщение об этом было сделано на международном конгрессе по иммунологии, проходящем в эти дни в Республике Сан-Марино, и вызвало огромный интерес. Вакцина, созданная на базе протеина «ТАТ», дала блестящие результаты в опытах на макаках, у которых почти полностью восстанавливался утерянный иммунитет.

Барбара Энзоли работала над вакциной в течение 14 лет. Министерство здравоохранения Италии, одобрив результаты ее исследований, дало принципиальное разрешение на производство вакцины и осуществление пробного курса лечения пациентов-добровольцев в одной из специализированных клиник. В ближайшее время экспериментальное лечение будет проведено в ряде африканских стран повышенного риска, подверженных эпидемии СПИДа, разумеется, с согласия местных властей. Для получения устойчивых результатов в отношении организма человека понадобятся по меньшей мере еще пять лет, но мы — на правильном пути, не сомневается Барбара Энзоли.

## Драгоценности сыпались с неба

**Дождь из золотых изделий и драгоценностей «пролился» на прохожих в пригороде иранской столицы. Причиной необычных осадков стал мощный взрыв газового баллона, прогремевший в ювелирном магазине.**

По свидетельству газеты «Иран», оказавшиеся в радиусе нескольких десятков метров от магазина люди в одно мгновение были осыпаны золотом и драгоценными камнями. Они бросились собирать неожиданно обрушившееся с неба богатство. Однако многие, выяснив в чем дело, не без сожаления вернули добычу ее законным владельцам. Что же касается ювелиров, которых в момент взрыва в магазине было двое, они получили серьезные ранения и ожоги и после госпитализации больше заботились о собственном здоровье, нежели о своем товаре.

## Баварский клад

**Не только многие наши граждане предпочитают хранить деньги не в «коварных» банках, а у себя дома — это делают и жители благополучной ФРГ. По крайней мере, так поступила 89-летняя старушка из живописного местечка Вальдкрайбург (Бавария).**

Не доверив свои сбережения ни одному немецкому банку, она сложила все свои накопления — 218.600 марок в жестянку из-под кофе и запрятала ее в кухонную плиту. Вскоре после этого пожилая фрау приболела и попала в больницу.

Тем временем владелица квартиры, где находился «клад», решила во время отсутствия старушки сделать в доме ремонт. Через пару дней двое мастеровых с удивлением вытащили из духовки на свет божий жестянку с кругленькой суммой. Закончилась история хэппи-эндом: немцы оказались честными и все до пфеннига передали в полицию. Там деньги пересчитали, находку запротоколировали и вернули умиленной хозяйке, посоветовав ей все же хранить деньги на банковском счету.

## Вокруг Земли за два часа

**Потрясающие перспективы рисуют перед авиапассажирами американские конструкторы: вскоре путешествие между двумя самыми удаленными друг от друга точками Земли будет занимать не более 2 часов.**

А все благодаря разработанному самолету *HyperSur*, максимальная скорость которого около 11.000 км/час. Суперлайнер, по форме напоминающий клинок, вдвое превосходит по грузоподъемности самый крутой «боинг». Одна беда: пока *HyperSur* существует только в чертежах.

## В Польше – «мобилизация»

**Польша намерена «догнать и перегнать» европейские страны по количеству мобильных телефонов на душу населения.**

Уже сейчас число обладателей «комурек», как их именуют поляки, перевалило за 3 млн. По прогнозам, в 2005 году 10,5 млн. или около 27 процентов всех жителей страны будут владеть «мобильниками».

Борющиеся за рынок иностранные фирмы заинтересовывают своей продукцией даже детей. Шведы, например, вставляют переговорное устройство в мягкие игрушки. Стоит ребенку нажать на кнопку в ворсе плюшевого мишки и произнести «мама», — и послушный автомат тотчас соединит его с «абонентом».

## Кто в Африке первый?

**Население Нигерии достигло отметки в 108,5 млн. человек.**

Страна занимает первое место на африканском континенте по числу жителей. Как заявил председатель Национальной комиссии по населению Крис Угокве, при нынешнем приросте населения ожидается, что к 2015 году эта цифра составит 178 млн., а за 25 следующих лет население страны возрастет до 217 млн. человек.

# Даты і лёсы

### *27 кастрычніка*

**1662.** Францыя купіла ў Англіі порт Дзюнкерк за 2,5 млн. ліўраў.

**1728.** Нарадзіўся славуты англійскі мараход капітан Джэймс Кук, які адкрыў для еўрапейцаў Аўстралію, Новую Зеландыю, Гавайскія астравы і ўпершыню падышоў да берагоў Антарктыды. Спадар Кук хітрыкамі прымусіў матросаў есці кіслую капусту, дзякуючы чаму ніводны з яго спадарожнікаў не памёр ад цынгі. Падчас апошняй экспедыцыі (1778) Кук спрабаваў пераплысць Паўночны Ледавіты акіян. Але благое надвор'е прымусіла яго адступіць на Гавайскія астравы з надзеяй паўтарыць спробу на наступны год. Там Кук і быў забіты расчараванымі абарыгенамі, якія спачатку прынялі яго за Бога.

**1858.** Нарадзіўся 26-ы прэзідэнт ЗША Тэадор Рузвельт. У 1906 г. ён быў узнагароджаны Нобелеўскай прэміяй міру за дыпламатычныя захады, якія дапамаглі скончыць расійска-японскую вайну.

**1905.** Агульнагарадскі мітынг рабочых Мінска прыняў рэзалюцыю з актуальнымі і сёння патрабаваннямі свабоды сходаў і друку, недатыкальнасці асобы, усеагульнага выбарчага права і г.д.

**1923.** Нарадзіўся адзін з заснавальнікаў поп-арта амерыканскі мастак Рой Ліхтэнштэйн, які праславіўся гіганцкімі палотнамі па матывах газетных коміксаў.

**1971.** Рэспубліка Конга, былая бельгійская калонія, змяніла назву на Заір.

**1978.** Нобелеўскі камітэт абвесціў пра ўзнагароджанне Прэміяй міру прэзідэнта Егіпта А.Садата і прэм'ер-міністра Ізраіля М.Бегіна, якія паклалі канец 30-гадовай варажнечы паміж сваімі дзяржавамі.

**1981.** Прэзідэнт Фінляндыі У.Кеканен датэрмінова пайшоў у адстаўку «ў сувязі з хваробай». Дзяржаўны савет краіны прызначыў новыя прэзідэнцкія выбары на студзень 1982 г.

**1991.** Прэзідэнтам Рэспублікі Ічкерыі быў абраны генерал авіяцыі Джахар Дудаеў. Вярхоўны Савет Расіі абвесціў гэтыя выбары незаконнымі.

### *28 кастрычніка*

**1813.** Пад Лейпцыгам пачалася 4-дзённая «бітва народаў», у якой удзельнічала больш за 500 тыс. чалавек. Аб'яднаныя сілы Расіі, Прусіі, Аўстрыі і Швецыі разграмілі войскі напалеонаўскай Францыі і яе саюзнікаў. Германія вызвалілася з-пад улады Францыі.

**1831.** Англійскі фізік Майкл Фарадэй стварыў першую дынамамашыну, па прынцыпе якой працуюць усе электрастанцыі.

**1845.** У Гродне нарадзіўся беларускі фізік Зыгмунд Урублеўскі. За ўдзел у паўстанні 1863 г. быў сасланы на 5 гадоў у Сібір. У 1883 г. у Кракаве разам з польскім фізікам К.Альшэўскім упершыню атрымаў вадкі кіслярод, а пазней з яго дапамогай пераўтварыў у вадкасці азот і вокіс вугляроду.

**1929.** Упершыню дзіця нарадзілася ў паветры: місіс Т.Эванс нарадзіла дзяўчынку на борце транспартнага самалёта, які ляцеў над Флорыдай.

**1962.** Пагроза тэрмаядзернай вайны прымусіла СССР абвесціць (па радыё) пра згоду вывесці свае ракеты і бамбардзіроўшчыкі з Кубы.

### *29 кастрычніка*

**Нацыянальнае свята Турцыі. Кемаль Атацюрк («Бацька ўсіх турак») абвесціў краіну рэспублікай і стаў яе першым прэзідэнтам (1923).**

**1929.** У Кіеве нарадзіўся цяперашні прэм'ер-міністр Расіі Яўген Прымакоў.

**1929.** «Чорны аўторак» на Уол-стрыце, з якога пачалася вялікая дэпрэсія. Індэкс Доў-Джонса працягваў падаць да 2 ліпеня 1932 г. і знізіўся за гэты час на 90 працэнтаў.

**1954.** На базе пераведзенага ў Магілёў Пінскага абласнога тэатра адчыніўся Магілёўскі драматычны тэатр.

**1957.** Маршал Г.Жукаў быў зняты з пасады міністра абароны СССР і выведзены з кіруючых органаў КПСС з прычыны *«насаджэння культу сваёй асобы ў Савецкай Арміі і схільнасці да авантурызму ў разуменні задач знешняй палітыкі Савецкага Саюза»*.

**1964.** Танганьіка і Занзібар аб'ядналіся ў адну дзяржаву — Танзанію.

*Падрыхтаваў* **Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## Президенту не повезло с охранником

**К пяти годам лишения свободы приговорил пражский городской суд бывшего сотрудника охраны столичной виллы президента Чехии Вацлава Гавела за неоднократные кражи на вверенном ему объекте.**

С 1994 по 1996 год, по данным следствия, «страж порядка» вынес из президентского дома деньги, ценности и другие предметы на общую сумму почти 50 тысяч долларов. Следствие нередко заходило в тупик, поскольку в действиях обвиняемого отсутствовала всякая логика. Внимание злоумышленника привлекали не только деньги, драгоценности или «сувениры» типа майки известного чешского футболиста Карела Поборского, но и, например, такие «обиходные» предметы, как коврик для ванной, галогенные лампы или апельсиновый сок из холодильника президента.

Самым ценным предметом, похищенным с виллы, оказался арендованный президентской администрацией у одного из музеев страны турецкий ковер ручной работы. Впоследствии он был найден у похитителя в гараже. Все «трофеи» охранник держал у себя дома и добровольно выдал похищенное, как только был задержан.

На суде обвиняемый заявил, что брал вещи «на память» и полностью раскаялся в содеянном. Медицинское обследование бывшего «стража порядка» не обнаружило у него психических отклонений.

**Б.П.**





*Як мы ўжо паведамлялі, 15 кастрычніка ў Францыі пратэставалі старшакласнікі. У дэманстрацыях па ўсёй краіне ўдзельнічала прыкладна 500 тысяч чалавек. Школьнікі патрабавалі скараціць колькасць вучняў у класах, зменшыць хатнія заданні і г. д. На здымках французскага агенцтва SIGMA вы бачыце, як гэта адбывалася.*

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Падпісны індэкс 63312 E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996. Юрыдычны адрас рэдакцыі: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» ВПП імя Я.Коласа (220073 г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1253 Нумар падпісаны ў друк 26/10/98 (15:30) Наклад — 18 300.